


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (1104) ГОД XXII БЕЛАСТОК 24 КРАСАВІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.



*Арэшкава выйшла на вуліцу...*

## Нізкі паклон Арэшкаву

У арэшкаўскім мастацкім калектыве 20 асоб. А сярод іх жанчыны старыя і маладыя — ад 70 да 30 год. Усе яны — сялянкі.

Сцэнка, з якой арэшкаўцы выступілі на цэнтральным аглядзе драматычных калектываў БГКТ у Бельску, была надзвычай свежая і самабытная. Вось яшчэ толькі рассоўваецца заслона, а ўжо за плотам чуваць крыкі бабы, заганяючай курэй: „Тіп-тіп, тіп-тіп!.. Тіп-тіп, тіп-тіп!..“ Звычайны вясковы плот, са старымі жэрдкамі, а за ім жоўтыя сланечнікі, ды колькі ж паэзіі ў гэтай скромнай, але не банальнай дэкарацыі! Як адрозніваецца яна ад манатоннай дэкарацыі ў выступленнях іншых калектываў, дзе абавязкова дзея адбываецца ў хаце з традыцыйным сталом, канапай і макаткамі на сцяне... Арэшкаўцы выйшлі са сваёй песняй на вуліцу, на прастор, каб гучней і далей пранесці родныя напевы, хаця таксама маглі б замкнуцца ў цеснай хаце з абразамі.

З якім дастоінствам умеюць арэшкаўскія бабы хадзіць па сцэне, як патрапяць яны адначасова выэкспанаваць і камічны элемент! Умеюць смяяцца самі з сябе (а гэта ж, бадай, зрабіць найцяжэй). Вось, нагаварыўшыся ўдосталь наконт суседскіх курыц і яечак, жанчыны вырашаюць, што „чым сварытісе, лепі поспіваті“, і пачынаюць станавіцца ў рад ды садзіцца на лаўку. Як яны гэта робяць! Распіхаюцца, спораць за месца, смяюцца, весела гамоняць. І на заклік „Бабо, співайтэ!“ плывуць песні вядомыя, ды і малавядомыя — тыя, што сядзяць у сэрцах арэшкаўскіх жанчын, і мо нідзе па-за Гайнаўшчынай іх і не пачуеш.

Іх песні пераплятаюцца дасціпнымі дыялагамі, будзь гэта бабская гаворка пра мужоў, ці пра спадніцы. Вось адна перад другой пачынаюць хваліцца жанчыны сваімі новымі саянамі. Адна кабеціна, моцная і далёка не худая, пачынае занадта захвальваць свой саян. І тут жа ставяць яе на месца, пытаючы, колькі ж полак мусіла яна ужыць на яго. Тая адказвае, што толькі тры. Тады кабеціна, якая зусім нядаўна была ахрышчана імем „сухая субуота“, адгрызаецца, каментуючы: „А дэ там тры пуолкі! Там можэ на одnуом стэгніе тры пуолкі!“ Пачынаецца бабская спрэчка, і найбольш энергічная з жанчын разлівае сварачыхся вадою.

Бабы з Арэшкава самі прыдумалі сцэнарый і не працаваў з імі ніякі рэжысёр, але калі б у цэнтральным аглядзе драматычных калектываў БГКТ прадугледжвалася спецыяльная галоўная ўзнагарода, дык напэўна належалася б яна ім. Можа некаторым здаецца, што п'есу развучыць і выступіць — намнога больш складана, а заспяваць свае, мясцовыя песні, якія ў тутэйшых людзей і так плывуць у крыві, намнога прасцей, ды і меншая небяспека прамахнуцца. Няпраўда! Зрабіць сцэнарый самастойна, „з нічога“, са звычайнага, здавалася б, шэрага жыцця, без асаблівай фабулы, а захапляюча — зусім не проста! Зусім не проста зрабіць з гэтага жыцця вясёлы, каляровы карагод з вязанкай народных мудрасцей і задушэўных песень.

(Працяг на стар. 4)

## Дзесяць клопатаў Цісоўкі

**Клопат I.** Па важнасці для будучага лёсу вёскі. Бо калі на 74 гаспадаркі ў сяле ёсць аж 30 пенсіянераў, а ў бліжэйшыя гады прыбудзе іх яшчэ 5-10, дык ружова заўтрашні дзень не выглядае. Тым больш, што здадзеную за пенсію зямельку ніхто не хоча абрабляць, знайшліся ахвотныя толькі на лугі ды самыя ўраджайныя кавалкі, а рэшта лягла аблогам. Праўда, слабенькая яна, але калісьці ўсё ж расло на ёй жытка, грэчка, сырадэля, лубін, а цяпер, пры сучаснай агратэхніцы, ці ж не магло б?

**Клопат II.** Па бязвыхаднасці. Проста няма чым апрацоўваць зямлю: пенсіянеры, зразумела, коней пазбыліся, а іншыя сяляне трымаюць іх па адным, бо не аплочваецца — пара коней з'ядае столькі, колькі тры добрыя дойныя каровы. Ніхто з цісаўчан не спяшаецца купляць трактар, таму што, па-першае, ён дарагі, а па-другое, проста ніхто не адважваецца быць першым, каб часам чаго не выйшла ды вёска не абсмяяла. Машыны ў далёкім міхалоўскім СКР-ы вельмі недаступныя па той прычыне, што з кожным годам прыбывае ўсё больш ПФЗ-аўскай зямлі і трэба яе абрабіць у першую чаргу, машынны парк там не застойваецца. Вось і выходзіць, што няма цяглавай сілы на гэтыя аблогі.

**Клопат III.** Па нясмеласці. У Цісоўцы ёсць шмат працавітых, дбайных і разважлівых людзей як, напрыклад, Уладзімір Клімюк, Аляксандр Гобец, Аляксандр Ляшчук, Васіль Бура і многа іншых. Аднак гаспадараць яны па-колішняму, па-старасвецку: некалькі каровак, трохі ялоўніку, чародка свіней, гурточак авечак і тое самае на полі: стракаты букет усяго па сцяблу. Ніхто дагэтуль не адважыўся пайсці крок у крок з патрабаваннем часу: выбраць адзін напрамак у гадоўлі ці ў вырошчванні збожжа, пабудаваць добрыя гаспадарчыя будынкі, абзавесціся машынамі, прыдбаць зямлі і стаць праўдзівым фермерам на 30-40 гектарах з высокатаварнай вытворчасцю. Ці забылі цісаўчане прыказку: адвага і гарады бярэ?

Працяг на стар. 4

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Імем яе названа вуліца (Белавежа) ● Не для ацэнкі, а для жыцця (Ружаны Сток) ● У беластоцкім цэнтры даследавання і кантролю асяроддзя ● Дзе растуць „Жалезныя крыжы“? ● Літаратурная старонка ● Жыццё за паперкай ● У чыіх руках ПКС ● Весткі з Бельска, Паўлаў, Сакоў, Скупава, Зубава, Гайнаўкі, Старога Ляўкова, Нараўкі, Шудзялава, Дыдуляў, Галадоў ● Кастусіха павучае Кастуся ● Песня „Po co są dziewczyny”.**




### ЗАЛОГ ЛЕПШАЙ БУДУЧЫНІ

Запрашаю ў другую паездку па мясцінах усходняй Беласточчыны, што адзначаны шыльдай **СКР**, у якіх ствараецца трывалы залог лепшай будучыні нашых землякоў.

— Наша дзяржава, — кажа інжынер Мікалай Андрэюк, — не шкадуе грошай на развіццё жывёлагадоўлі, бо гэтыя інвестыцыі вельмі нам патрэбныя, яны служаць усяму грамадству. **У адных толькі Кляшчэлях,** — прадаўжае ён, — **жывёлагадоўчая база будзе каштаваць звыш 200 млн. злотых.**

Дык спынямся ў **Кляшчэлях.** Наваколле гэтага пасёлка ніколі багаццем не славілася. Вёскі Дабрывада, Кузава, Ставішчы, Беразішча, Чаромха-вёска расселіся сярод лесу, на пяску, дзе і грэчка не вельмі расце. Больш шчодра чымсьці зямля корміць іх чаромхаўская чыгунка. Нават у наваколлі Дашоў, дзе болей спрыяльныя ўмовы для жыцця ў вёсцы, не наглядаецца вялікага зацікаўлення апрацоўкай зямлі.

— Кляшчэлеўскі СКР, — інфармуе інжынер Андрэюк, — прыняў на сябе нялёгкі абавязак загаспадарыць пакінутую зямлю. А тут яе вельмі многа. Гэтую праблему хочам рашыць комплексна, па-сучаснаму.

— Што гэта абазначае?

— Гэта значыць, што ў **Кляшчэлях маем намер будаваць так званы агракомплекс,** у якім усе галіны сельскагаспадарчай вытворчасці будуць цесна між сабою звязаны. **Уявіце сабе кароўнік на 500 штук малочных кароў, а побач 1000 штук букатаў!**

— Як усё гэта пракарміць?

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77



*Дуэт з Беластока: Мікалай Мінько і Аляксандр Монах. Другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні сёлетняга цэнтральнага агляду.*

*Фота К. Свідэрскага.*




**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвалі:**
Ліля Скепка з Альхоўкі і Багуся Гарадкевіч з Мастаўлян.

## ВЕР—НЕ ВЕР

Дарагі Астрон! У мяне хворы бацька, непакоюся аб яго здароўі і вось прысніўся мне такі сон. Стаю з дачкою над рэчкаю. Рэчка глыбокая вельмі (у сапраўднасці яна зусім неглыбокая) і бачу: праз гэтую рэчку пераходзіць мой бацька і вядзе з сабой чорнага каня, а вада глыбокая і даходзіць бацьку пад самую бараду. Але ўдалося бацьку перайсці праз рэчку. Выйшаў ён на бераг. А мне таксама трэба прайсці праз яе і яшчэ трымаю на руках дачку. Стаю і думаю, ці ўдасца мне прабрацца праз рэчку.

Янка

Сніцца, што ўлезла я на дрэва. Сяджу, гляджу ўніз і бачу: кругом зялёнае бурачанае поле і пры дрэве перада мной стаіць вялікі, прыгожы сабака. Гляджу і захапляюся ім. А ззаду недзе яшчэ тры сабакі, але іх я не бачу, яны мяне не цікавяць. Але прыйшоў муж і кажа мне: „Чаму гэта ты сабак не накорміш? Яны ж галодныя". Тады я вырвала гэтага зялёнага лісця і кінула сабацы.

Валя

**Дарагі Янка!** Напэўна чакаюць вас вялікія клопаты ў сувязі са здароўем бацькі. Аб гэтым гаворыць і тое, што вы трымалі на руках дачку, і тое, што стаялі над глыбокай рэчкаю. А найгорш гэта тое, што ваш бацька вёў праз вельмі глыбокую раку чорнага каня (добра, што ён на ім не ехаў). Яго жыццё знаходзіцца ў небяспецы, але ўсё ж удасца яму прайсці праз тыя затрудненні.

**Валя!** Ваш сон цікавы. Лазіць па дрэвах — поспех у справах. А з дрэва ж вы бачылі зялёнае бурачанае поле і перад сабой сабаку. Знойдзецца ў вас нейкі прыяцель (вы яго, а ён ваш), які дапаможа вам у дасягненні гэтага поспеху.

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка, мне 32 гады, я ўдава. Выйшла замуж маладая, а з мужам жыць толькі два гады давялося. Ён трагічна загінуў. Асталася я з маленькай дачушкай. Ад цесцяў я перайшла жыць да сваіх бацькоў, і яны заапекаваліся мной і маім дзіцём. І так мы жывем разам і працуем на гаспадарцы, дзіця ходзіць у школу, якая знаходзіцца ў нашай вёсцы. І вось нядаўна пасватаўся да мяне мужчына з суседняй вёскі. Яму ўжо сорак год. Яго маці нядаўна памерла, і астаўся ён са старым бацькам, а гаспадарка вялікая, цяжка ім. Я ведаю яго і яго сям'ю. Гэта людзі парадачныя, працавітыя. Але я ніяк не маю адвагі выходзіць замуж. Мусіла б я тады ісці да яго, пакінуць бацькоў, а я ў іх адна. Дачка мая выгадавалася з дзедкам і бабкаю, дык як яе цяпер забраць у чужую сям'ю? Бацькі кажуць: як хочаш, так і рабі. Ім таксама цяжка са мной ды ўнучкай расстацца, але не адмаўляюць. Сэрцайка, памажы мне!

Марыся з Бельшчыны

Марыся! Хутка толькі маладзенькія дзяўчаткі замуж выходзяць. У тваім узросце ўжо чалавек на ўсе бакі аглядаецца. Але ўсё ж найгоршае ў жыцці — гэта адзіноцтва. Час ідзе хутка, бацькі састарэюцца, дачка вырасце — пойдзе замуж. І ўвесь цяжар гаспадаркі на тваё плечы зваліцца. Пакуль ты яшчэ маладая і трапляецца парадачны чалавек — варта сваю сям'ю залажыць. А дзіця прывыкне. Ды ж і бабка з дзедам недалёка, наведваць будуць.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж і жонка маюць кватэру, прыдзеленую мужу гарадскімі ўладамі. Цяпер у судзе вядзецца паміж імі развод. У іх адно дзіця. Як можа быць вырашана пасля разводу пытанне кватэры?

АДКАЗ: Калі муж і жонка наймаюць кватэру, якая можа быць падзелена на дзве самастойныя, то пры іх згодзе суд можа яе падзяліць і пасля гэтага папярэдні наём выгасае, а паўстаюць дзве асобныя ўмовы найму.

Калі муж або жонка згаджаюцца добраахвотна пакінуць кватэру, то суд прызнае яе таму, хто ў ёй астанецца.

Калі паміж мужам і жонкай няма згоды наконт кватэры, суд вырашае, як часова павінна быць падзелена карыстанне кватэрай. Канчатковае вырашэнне справы ў гэткіх выпадках належыць да кватарунковай улады.

Не мае пры гэтым значэння, ці кватэра прыдзелена на мужа, ці на жонку. У кожным, аднак, выпадку суд бярэ пад увагу патрэбы мужа або жонкі, пры якіх астаюцца непаўналетнія дзеці.

Калі паводзіны мужа або жонкі дрэнныя і іх пражыванне ў адной кватэры немагчыма, то на патрабаванне таго, чые паводзіны правільныя, суд можа загадаць прымусовае высяленне, што не мае ўплыву на пазнейшае прызнанне права на кватэру.

Ад 1 сакавіка Дзяржаўны польскі банк увёў у грашовы абарот ашчадныя боны ПКО вартасцю 15 тыс. зл. з розыгрышам прэмій у выглядзе аўтамашын. Гэтыя аўтамашынныя боны бяруць удзел у квартальных розыгрышах — адна легкавая машына на 800 бонаў.

## Новае ў ПКО

Каб узяць удзел у розыгрышы, бон мусіць быць у яго набыўцы цэлы каляндарны квартал, папярэджваючы розыгрыш. Такім чынам, боны, набытыя ў сакавіку б. г., возьмуць удзел у найбліжэйшым розыгрышы, які адбудзецца ў ліпені.

Выстаўленыя раней аўтамашынныя ашчадныя кніжкі з грашовым укладам 9 тыс. зл (якія ад 31 сакавіка ўжо не бяруць удзелу ў розыгрышах) можна замяніць на аўтамашынныя боны, уносячы адпаведную даплату. Ашчадныя кніжкі, замененыя на боны ў перыядзе ад 1 красавіка да 30 чэрвеня 1977 года будуць закваліфікаваны да розыгрышу ў ліпені 1977 года. (Падрабязныя інфармацыі можна атрымаць ва ўсіх банках).

(мх)

## Этнаграфічнае акенца



*Дом на падмурку ў мястэчку Сухаволя.* *Фота М. Гайдука.*

## Куток практычных ведаў

### ПРА БІЖУТЭРЫЮ ТРЭБА ДБАЦЬ!

Напэўна, кожная жанчына мае хоць нейкую біжутэрыю. Ці будзе яна каштоўная, ці вельмі танная, то прыгожа будзе выглядаць толькі пры ўмове, што мы будзем дбаць пра яе. Дык падаем сёння некалькі рад.

● **Золата і плаціна.** Памыць у летняй вадзе з мылам, дакладна спаласнуць і вельмі старанна выцерці. Каб вырабы сталі бліскучыя, пагрузіць іх у 90-працэнтны алкаголь і адпаліраваць „ірхай" (мяккай замшавай скурай).

● **Серабро.** Памыць у летняй вадзе з мылам, да якой можна дадаць крыху аманьяку (нашатырнага спірту), або ў 90-працэнтным алкаголі. Дакладна выцерці. Калі брудзяць скуру, пацягнуць паверхню, датыкаючуюся да цела, белым лакам.

● **Пасярэбраны метал.** Калі чэрніць скуру, пацерці анучкай, змочанай у дэнатураце, але зрабіць гэта трэба вельмі хутка. Дакладна спаласнуць. Адпаліраваць мяккай анучкай і „ірхай".

● **Пазалочаны метал.** Вычысціць грубазярністай соллю, змешанай раней з лімонным сокам. Як найхутчэй добра паласкаць. Закончыць церці мяккай анучкай, памакаўшы яе ў муку. Калі часова не носім, трымаць загорнутыя ў чорную паперу.

● **Сталь.** Пакрыць пластом ачышчанай соды і далікатна паліраваць спачатку мяккай шчоткай, а пасля „ірхай".

● **Жэмчуг (перлы) з гадоўлі.** Ачысціць у летняй вадзе з мылам, выпаласкаць у чыстай вадзе той жа тэмпературы. Высушыць мяккай анучкай ваду. Не мыць занадта часта!

● **Жэмчуг натуральны.** Нацерці скрылёчкамі лімона і выпаласкаць у халоднай вадзе. Калі прадмет вельмі брудны, трэба вымыць яго ў цёплай вадзе з мыльнай пенай і выпаласкаць таксама ў цёплай вадзе. Выцерці мяккай анучкай.

● **Драўніна.** Напаставаць вадкай пастай. Высушыць і адпаліраваць мяккай анучкай.

● **Карал.** Пагрузіць у салоную ваду. Выпаласкаць, выцерці і адпаліраваць.

● **Штучныя каменні.** Пасыпаць талькам і чысціць вельмі мяккай шчотачкай, каб не выпалі.

**Гаспадыня**

С. СМІРНОЎ

# У КАТАКОМБАХ АДЖЫМУШКАЯ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ



Па вялізных пnative прасторах нашай краіны пракацілася вайна, несучы з сабой смерць і разбурэнні. Але на гэтых прасторах былі такія кавалкі зямлі, такія гарады і вёскі, якія з поўным правам можна назваць шматпакутнымі, бо барацьба тут была асабліва доўгай і жорсткай і вайна прынесла сюды асабліва сакрушальныя няшчасці.

Яшчэ чакае сваіх гісторыкаў і пісьменнікаў шматпакутная эпапея асаджанага Ленінграда. А вялікі горад на Волзе, дзе столькі часу бушавала самая лютая бітва ў гісторыі чалавецтва! Спытайце воінаў Ленінградскага фронту, чым быў для іх „пятачок" ля Неўскай Дуброўкі! Спытайце ў тых, хто ваяваў на Волхаўскім фронце, што такое „Даліна смерці" каля вёскі Мясны Бор! А разбураны Севастопаль, а раздзелены папалам лініяй фронту Варонеж, а вядомая „Малая зямля" пад Новарасійскам!

Такім шматпакутным стаў і ўсходні бераг Крыма, які прымыкаў ад Керчанскага пралiва, разам з горадам Керч. Чатыры разы пераходзілі гэтыя мясціны з рук у рукі, чатыры разы гэта зямля была пераарана снарадамі і танкавымі гусеніцамі, засеяна кулямі і асколкамі, і чатыры разы вайна збірала тут сваё багатае і страшэннае жніво.

Восенню 1941 года, развіваючы наступленне на ўсход, нямецкая армія ўвайшла ў Крым. Хутка ўвесь Крымскі паўвостраў, за выключэннем Севастопаля, які ўпарта супраціўляўся, быў захоплены ворагам. Занята была і Керч.

Але ўжо зімой таго ж года Чырвоная Армія, сабраўшыся з сіламі, спыніла ворага і на некаторых участках фронту перайшла ў контрнаступленне. Немцы былі разгромлены пад Масквой, атрымалі моцныя ўдары пад Растовам і Ціхвінам. У снежні нашы армія і флот, дзейнічаючы з Таманскага ўзбярэжжа Каўказа, высадзілі ў Крыме дэсанты ў раёне Феадосіі і Керчы і, адцясніўшы ворага, стварылі ўстойлівы плацдарм на ўсходнім узбярэжжы паўвострава. Фронт спыніўся на захад ад Керчы, на так званых Акманайскіх пазіцыях.

Калі, вызваліўшы паўразбураную Керч, нашы войскі ўступілі ў пасёлак Аджымушкай, да іх насустрач з глыбіні каменяломняў выйшлі ўзброеныя людзі. Гэта былі керчанскія партызаны. Некалькі тыдняў назад, як толькі вораг прыйшоў сюды, яны спусціліся пад зямлю і ўвесь гэты час жылі там, у тунелях каменяломняў, ведучы барацьбу, наладжваючы начныя вылазкі і дыверсіі, падтрымліваючы сувязь з мясцовым насельніцтвам. Цяпер іх падземнае жыццё закончылася — яны дачакаліся прыходу сваіх.

Тыя, хто бываў у Крыме, напэўна, памятаюць, што многія пабудовы там узводзяцца з асаблівага, порыстага вапнаванага каменю, які называюць ракушачнікам. Гэты ракушачнік здабываецца на Керчанскім паўвостраве. У раёне Керчы ёсць некалькі каменяломняў — Багераўскія, Вергапольскія, Булганак і іншыя. Але самымі вялікімі з усіх каменяломняў былі Аджымушкайскія.

Вялізны, магутны пласт ракушачніку выходзіць на паверхню зямлі ў ваколіцах вёскі Аджымушкай. З даўніх часоў людзі бралі тут камень для будаўніцтва, выпілоўвалі яго прама з пароды вялікімі роўнымі плітамі, прабіваючыся пры гэтым усё далей пад зямлю. Так за доўгія, доўгія гады ўтварыўся шматкіламетровы шматпавярховы падземны лабірынт, цэлы горад, які ляжаў на глыбіні ад пяці да дваццаці метраў ад паверхні зямлі, горад з шырокімі вуліцамі, вузкімі завулкамі, цеснымі калідорамі і мноствам выхадаў наверх у розных месцах. Па адным з гэтых тунеляў свабодна мог праехаць грузавік, па другім — конь з возам, а былі і такія, дзе чалавеку даводзілася ісці сагнуўшыся або нават на карачках. Трываласць каменнага масіву давала магчымасць не ставіць штучных апор, і толькі ў самых шырокіх выпрацоўках пакідалі слупы таго ж ракушачніку, якія

